Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№. 7. Вільня, Нядзеля, 21 Лютага 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:
на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў вадней палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.

## Камуністы-заходнікі.

Усё што-раз-то часьцей можна пабачыць у газэтах весткі пра камуністычную партыю Заходняй Беларусі, або пра так зв. камуністаў-заходнікаў. Аб гэтай партыі пачала пісаць нават буржуазная прэса, а абшарніцкае „Słowo" у адным з нумароў (3.I.26) памясьціла доўгую стацьцю ў гэтай справе.

Хто-ж гэта такія камуністы-заходнікі.

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба глянуць у нашую прошласьць і прасьледзіць усе праявы жыцьця і арганізацыі камуністычнай партыі ў граніцах Польшчы.

Пасьля Рыжскага дагавору ў 1921 годзе вялікія часткі Беларусі і Украіны адыйшлі да Польшчы; з гэтымі часткамі адыйшлі пад Польшч і камуністычныя ячэйкі, якія знаходзіліся на беларускіх і ўкраінскіх абшарах. Вось-жа гэтыя ячэйкі сталі ў залежнасьці не ад Расейскае камуністычнае партыі (як было дагэтуль), але ад „Polskiej partji komunistycznej", якой цэнтральны ўрад знаходзіцца ў Варшаве.

Трэба ведаць, што яшчэ дагэтуль камуністычная партыя баіцца нацыянальных фармацыяў (партыйных, вайсковых і іншых), але стаіць за дзяржаўныя фармацыі, затым і аддала беларускіх і ўкраінскіх камуністаў пад загад варшаўскага цэнтру і ўліла іхныя ячэйкі ў *польскую* камуністычную партыю. Не памаглі пратэсты беларускіх і ўкраінскіх таварышоў. Масква аказалася цьвёрдай і хоцькі-ня-хоцькі беларускім і ўкраінскім камуністам трэба было пакарыцца і ісьці ў „польскую" партыю.

Але згоды ня было. Іншая народная псыхіка і адменнае ўзгадаваньне, а так-сама розныя мэты не маглі ніяк злучыць у адно беларусаў, украінцаў і палякаў. Беларусы і ўкраінцы закідалі варшаўскаму цэнтру лішні апортунізм і ўгодлівасьць, а так-жа і тое, што польскія камуністы не дацэнівалі значэньня „крэсаў" у рэвалюцыйным руху. „Варшавякі" ізноў не хацелі даць большай свабоды сваім усходнім таварышам у іхнай дзейнасьці. Пры такіх абставінах было ясна, што супрацоўніцтва паміж беларусамі і ўкраінцамі з аднэй стараны, а палякамі з другой немагчыма. Так яно і сталася. Спачатку ўкраінцы, а за імі і беларусы аддзяліліся ад варшаўскага цэнтру і стварылі свае самастойныя і незалежныя камуністычныя партыі.

Што-ж на гэта Масква! Масква спачатку загадала беларусам пакарыцца і ісьці пад каманду К. Р. Р. („Komunistyczna Partja Polski"). Тлумачыла пры гэтым, што трэба быць салідарнымі і дзяржацца прынятага ў камуністычнай партыі падзелу не на народнасьці, а на дзяржавы. Аднак беларускім камуністам так уеліся ў косьці „варшавякі", што не памагла навука нават маскоўскага цэнтру (так зв. Камінтэрну)—і яны рашылі ня ісьці пад каманду Варшавы. Масква на гэта адказала вылучэньнем з партыі ўсіх апорных беларускіх камуністаў! Здавалася, што для самастойнай беларускай камуністычнай партыі прыйшоў трудны час, аднак яны супольным натугам пастанавілі справу вясьці далей тымболей, што ў іх руках асталася патайная друкарня і трохі капіталу.

Але ня спалі і „варшавякі". Ведаючы, дзе знаходзіцца друкарня, яны прыйшлі і зьдэмалявалі яе (зьнішчылі). У адказ на гэтае камуністы-заходнікі выпусьцілі комунікат, што калі-б у друкарні было болей людзей, то ні адзін „варшавяк" ня вышаў-бы жывы... Гэты сказ сьведчыць аб тэй вялікай заядласьці паміж беларусамі і палякамі. Іх не магла спалучыць у адно нават камуністычная партыя са сваей сярдзітай дысцыплінай!

К. П. З. Б. (Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі) ня гледзячы на ўсе перашкоды далей разьвівала сваю працу. Іхнымі органамі былі дзьве газэты: „Чырвоны Сьцяг" (па беларуску) і „Большевик" (па расейску). Гэтыя газэты і далей друкаваліся ў патайнай друкарні, каторую ўжо відаць добра схавалі ад вока „варшавякаў".

Для нас у гэтым споры найцікавей тое, якія адносіны істнуюць паміж камуністычнымі цэнтрамі і як яны адносяцца да нас беларусаў. А гэтым адносіны, як відзім, даволі крыўдныя. У канцы трэба адказаць на пытаньне, чаму Маскоўскі цэнтр (Комінтэрн) не паддзяржаў у гэтым споры беларусаў, але палякоў. „Słowo" разьвязвае гэтае пытаньне так: Комінтэрн цэніць заўсёды сілу і арганізацыю. У Польшчы найбольшай і найлепш арганізаванай ёсьць партыя польская—затым Комінтэрн заўсёды і падзержываў польскую партыю, а на беларусаў, як слабейшых, мала зьвяртаў увагі.

Чуючы за сабою сілу, польскія камуністы пачалі абходзіцца з беларусамі па панску, уважалі іх за камуністычную „меншасьць", якая ім аддана пад уладу, насылалі ў Беларусь сваіх кіраўнікоў і загадчыкаў, словам былі „прыраджонымі" гаспадарамі ў партыі. Гэтакае становішча польскіх камуністаў, год таму, прывяло да падзелу... Так меней-болей піша „Słowo".

Яшчэ з восені польская прэса пісала, што ўсе галоўнейшыя дзеячы К. П. З. Б. злоўлены і сядзяць у вастрогах, пісалі нават аб тым, што злавілі рэдактара „Большевика", аднак у гэтым-самым нумары „Słowa" мы знаходзім весткі, што „Болшевик" недзе друкуецца і што выходзіць так-сама „Чырвоны Сьцяг". Значыць, камуністы-заходнікі далей разьвіваюць сваю работу, змагаючыся ўжо ня толькі з буржуазнымі, але і камуністычнымі „варшавякамі".

З гэтага кароткага агляду жыцьця К. П. З. Б. мы відзім, што Масква заўсёды лічыцца з сілай, а Варшава, ўсё-роўна якая: буржуазная, ці камуністычная, глядзіць на „Крэсы" як на „Tereny osadnictwa i kolonizacji". Дык калі беларусы-камуністы не маглі ўжыцца з камуністамі-палякамі, то якая партыя можа зжыцца? Гэтае пытаньне мае асаблівае значэньне цяпер, калі „polskie stronnictwo chłopskie" мае навязаць зносіны з беларускімі і ўкраінскімі сялянскімі арганізацыямі...

Каб ня вышла так, як з беларускімі камуністамі.

**Горсні.**

## З газэт.

### Украінізацыя.

Пад гэткім загалоўкам украінская штодзенная газэта „Діло" у № 18, 27.I. 1926 г. зьмясьціла стацьцю, у якой апісвае нацыянальную палітыку Саветаў. А дзеля таго, што савецкая палітыка ў гэтай справе аднолькавая як да Украіны, так і да Беларусі, дык і стацьця гэта, напісаная цікава і паважна, будзе так-жа цікаваю і для нас. Ніжэй зьмяшчаем яе ўсю:

„Дзіўна, а для чужынца дык і парадаксальна чуецца гэтае акляпанае ў нас слова „украінізацыя" Украіны. Няўжо-ж Украіну трэба ўкраінізаваць? На пацеху ворагам мусім сьцьвердзіць, што Украіна не патрабуе украінізацыі.

Затое неабходная ўкраінізацыя для тэй бюракрацыі, якая вытварылася на Украіне, дзякуючы цэламу дзесятку гадоў доўгае асыміляцыйнае палітыкі царскіх урадаў. Але ці-ж для ўсей бюракрацыі была неабходна ўкраінізацыя? Калі разумець пад украінізацыяй выключна ўжываньне украінскае мовы ў пісьме і слове, дык так. Калі-ж надаць украінізацыі больш шырокага і глыбокага зьместу, то не канечна. Знаная рэч, што вялікая частка быўшае царскае бюракрацыі, была маскоўскага пахаджэньня, але значная яе большасьць паходзіла з меснага ўкраінскага насяленьня. Гэта тычыцца, у першай меры, тысячаў тых шэрых, звычайных асобаў, Богу духа вінных, пісароў, шчотчыкаў і іншых канцэлярыйных аўтаматаў, якія ніколі нічога супольнага ня мелі ні з расейскім народам, ні з яго культурай, якія яго ня зналі, якія, праўда, мелі ўкраінскую душу, украінскую псыхіку, але павярхоўна лізнуўшы крыху з расейскае культуры, засьлепленыя сілай царскае імпэрыі, называлі сябе „рускімі" і лічылі сабе за чэсьць належыць да складу старое бюракрацыі. Дык вот усіх гэтых т. зв. „Маларосаў" трэба было не ўкраінізаваць, а адмаскаліваць. Працэсам адмаскаліваньня ўкраінскае бюракрацыі займаўся і ўрад гэтмана і, наканец, урад дырэкторыі.

Трудная гэта была справа адмаскаліваць гэтую катэгорыю малаінтэлігэнтнае, пустое, а падчас, дужа заразумелае і кансэрватыўна настроенае бюракратычнае масы. Усе вышэйшыя бюракратычныя становішчы звычайна былі абсаджаны маскоўцамі, або ўкраінскімі нацыянальнымі рэнэгатамі, якія, знаючы нават украінскую мову, ненавідзелі ўсё украінскае і лічылі сябе „русскімі". Гэта былі, так званыя, бюракратычныя „вяршкі". Мелі яны і большую асьвету, і часта шырокія пагляды, але для іх была бліжэй асабістая выгада, быў бліжэйшы „Саюз Рускага Народа", як справа украінская нацыянальная.

Яны адмяжоўваліся ад „мазэпінства", бо яно было небясьпечнае перш за ўсё для іхняе кар'еры, для іхняга дармаедзкага, выгаднага жыцьця. І гэтыя самыя „вяршкі" былі найвялікшаю перашкодаю ў працэсе г. зв. украінізацыі. Яны надавалі тон у змаганьні з ёю і пацягвалі за сабой большасьць ніжэйшае бюракраці. Нацыянальная ўкраінская ўлада вяла з імі заўзятае змаганьне. У адказ на гэта яны з ей змагаліся, як толькі маглі.

# ЗАДУМА.

Усё што мудрасьць стоўпіць можа,
Усё што за межамі веды ляжыць —
Аднаўляецца прыгожа,
Вечна па кругу наперад імчыць.

Чар—абновай, роўным рухам
Космос і вечнасьць даюць зьмест для „ёсьць“.
Вер-ня-вер душы і духам —
Станеш ты „новым“ упёршысь у „досьць“!

Воля сьвету існаваньня
Усходкай вышэй загадала нам стаць.
Дык нашто ў крыві змаганьне?!
То-ж чутна сэрцам, душою відаць!

**Алёна.**

# Гаспадарчы аддзел.

### Як знiстожыць на сенажацях мох.

Можна сьмела сказаць, што мох ёсьць аднэй галаўнейшай прычынай малой ураджайнасьці нашых сенажацяў. Дзякуючы сваей замшаласьці, нашы сенажаці нятолькі даюць мала сена, але і гэта сена бывае малавартае. А дзеля гэтага, кожны гаспадар павінен зьвярнуць усю сваю ўвагу на тое, каб выкараніць з сенажаці мох.

Мох ня толькі займаець мейсца патрэбнае для травы, але і вядзець яшчэ самую заўзятую барацьбу з карыснымі расьлінамі. Дзякуючы сваей непераборлівасьці на грунт і трываласьці перад самымі рэзкімі зьменамі пагоды, мох пасяліўшыся на сенажаці, хутка робіцца там поўным гаспадаром. Трэба зазначыць, што мох надта крэпка любіць ваду і ўбіраець яе ў сябе і ў некалькі разоў болеў чым важыць сам.

Засеўшы на сенажаці, мох убіраець і затрымовываець у сабе ўсю тую вільгаць, якая пападаець на луг (раса, дождж і г. д.). А дзеля таго, што мох звычайна тоўстай падушкай сваей засьцілаець грунт, дык вада або недаходзіць да грунту, або даходзіць у невялікай колькасьці. Ад гэтага карані карыснай травы мала атрымовываюць вільгаці і трава ня можа расьці. Ня можа трава расьці яшчэ і ад таго, што мох адбіраець ад яе тыя спажыўныя часткі грунту, якія ей патрэбны для росту, а такжа і ад недахвату паветра, якое цераз тоўстую, зьбітую мохавую падушку ня можа дахадзіць да каранёў травы ў патрэбнай меры. Дзякуючы гэтаму, на замшалых сенажацях усе лепшыя травы, як болей кволыя, гінуць, а застаюцца толькі самыя дзікія меней сытныя і смачныя.

Найболей пэўным і пры тым найболей танным спосабам ачысткі сенажаці ад моху ёсьць баранаваньне сенажаці. Баранаваньне трэба рабіць рана вясной, як толькі згоніць сьнег і зямля адтаіць на 1—$1^1/_2$ вяршкі. Калі ў гэты час пусьціць барану, дык мох лёгка вычэсываецца, бо ён сядзіць на вярху, а дзірван ня ўтоптываецца канямі.

Для баранаваньня сенажацяў прадаюцца асобныя бароны, так званыя лугавыя, якімі мох выбаронываецца і чысьцей і лягчэй. Такую барану трэба было-б мець у кожнай вёсцы. Зразумела, купляць аднаму гаспадару такую барану ня зусім выгадна, але купіўшы цэлай вёскай, яна абышлася-б надта танна і зрабіла-б вялікую карысьць.

Калі няма і неяк дастаць лугавой бараны, дык баранаваньне сенажаці можна сьмела рабіць звычайнай палявой бараной. Калі сенажаць роўная, дык баранаваньне звычайнай бараной нічым не будзе горш чым лугавой. Адзіны недахватак баранаваньня звычайнай бараной той, што барана гэта, калі сенажаць ня роўнае, не бярэць усімі зубамі, а ад гэтага ў ямінах застаюцца мейсцы зусім незачэпленыя бараной і каб забаранаваць іх, прыходзіцца часта паварачывацца з канём. Якая-б там барана ня была, а баранаваць трэба датуль, пакуль сенажаць не пачарнеець.

Выдзерты мох няма як пакідаць ляжаць на сенажаці, дзеля таго, што ён тут прыжывець ізноў. Мох трэба зараз-жа сабраць куды небудзь на старану ў кучы, высушыць добра і тады прывязьці для падсьцілкі хлявоў.

Апрача баранаваньня, мох на сенажацях зністажаюць і другім спосабам: пасыпаньнем замшалых мейсц жалезным купарвасам. Парашку купарвасу ужываюць на адну дзесяціну 20 — 30 пудоў. Мох яго зусім не пераносіць і пасьля першага дажджу адразу чарнеець. Траве купарвас нятолькі ня шкодзіць, але наадварот яшчэ памагаець.

Ня трэба толькі думаць, што выкаранены тым ці другім спосабам мох, не паявіцца ізноў на сенажаці. Калі сенажаць будзець знаходзіцца ў ранейшых варунках, дык мох у незабаўкі забуяіць ізной. Далейшая задача гаспадара павінна быць у тым, каб палепшыць свае сенажаці да такога стану, калі густая трава зьявіцца самай поўнай перашкодай для разрастаньня ня толькі моху, але і іншых непатрэбных і шкадлівых расьлін. А дзеля гатага, пасьля першага вясновага баранаваньня павінна рабіцца другое пазьней і ўжо не для таго, каб выдраць мох, а каб узрыхліць занадта зьлёгшуюся цьвёрдую зямлю, якая перашкаджаець ня толькі доступу паветра да каранёў травы, але і вады. Цяпер баранаваньне робіцца калі ўжо зямля добра адтаяла і ўжо добра падсохла. Баранаваньне трэба рабіць у некалькі сьлядоў удоўжкі і папярок сенажаці, каб як можна ляпей і глыбей разадраць дзірван. Трэба баранаваць да чорна, не баючыся што сенажаці гэта зашкодзіць. Наадварот, трава пойдзе расьці хутчэй і дасьць большы ураджай, асабліва калі гэткае баранаваньне рабіць кажную вясну.

Надта добра было-б, каб пасьля баранаваньня паддабраць луг гнаёвай юшкай (а яе поўна каля вашых хлявоў), дробным гноем, пячным попелам, тамасоўкай.

На астатак мушу сказаць, што калі да сенажаці будзець старанна прыложана болей увагі і працы і зроблена тое, што сказана мною вышэй, дык аб моху ня будзе і ўспаміну і сама сенажаць, з прадвеку замшоная, перавернецца ў дарагі луг і тады ня трэба будзе гаспадару займаць за некалькі вёрст на старане кусок лугу ў пана, аддаючы за яго апошнюю крывавую капейку, і толькі тады мы зможам загадаваць добрую пароду скаціны і мець з яе прыбытак.

**Сымон Шарак.**

---

Хто хоча мець штодзенную духовую страву, хто хоча што дня пачуць у сваей хаце цікавае і карыснае беларускае слова—хай купіць беларускі сьценны адрыўны календар.

**Сьпяшайцеся!**

---

# З Радавай Беларусі.

### Узрост безрабоцьця ў Меншчыне.

„Звезда" (№ 32) піша: „Рада Народных Камісараў Савецкае Беларусі ўстанавіла, што лік безработных на Беларусі не змяншаецца, але напроці—зьвялічваецца. У самым Менску ёсьць 4.100 безработных. Безрабоцьце не абымае рабочых прамысловых, а толькі дробных рамесьленьнікаў. На барацьбу з безрабоцьцем асыгнавана 480 тысячаў рублёў і зьвярнуліся з просьбай да СССР аб асыгноўцы дадаткавых 500 тыс. руб. і на барацьбу з безрабоцьцем у прыгранічных раёнах 900 тыс. руб.

### Беларускасьць і прафсаюзы.

Зьбеларушчаньне грамадзкіх устаноў у Радавай Беларусі, як гэта ня дзіўна, найбольш туга ідзе ў прафэсіянальных работніцкіх саюзах. Тут усё яшчэ непадзельна пануе „истинно-русский дух".

# З Заграніцы.

### Італьска-Нямецкае непаразуменьне.

Вэрсальскім трактатам была далучана да Італіі паўдзённая часьць Аўстрыі—Тыроль. Жыхарства Тыролі мяшанае: найбольш немцы, потым італьянцы і славенцы. У апошнія часы італьянскія фашысты пачалі аднямечываць немцаў і італьянізаваць, але спаткалі атпор з боку нямецкага грамадзянства і Тырольскага Сойму, якія катэгарычна пратэставалі. Гэты пратэст быў падтрыманы нямецкай прэсай Германіі і Аўстрыі. Трэба ведаць, што Італія як і Швайцарыя жывуць найбольш з даходаў ад чужынцаў—турыстаў; шмат багатых немцаў ня толькі адбываюць падарожу, але і стала жывуць у цёплым італьянскім клімаце, дык немцы пачалі страшыць італьянцаў байкотам. Мусуліні ня мог гэтага пранясьці і сказаў супроць Германіі вострую прамову. Тады нямецкі міністр закардонных спраў Штрэзэман 9 лютага, у парлямэнце, паміж іншым сказаў:

„Італьянскі рэжым імкнецца аднямечыць і паітальяніць Тырольцаў. Разумеецца, што такі паступак выклікаў пратэсты з боку нямецкага грамадзянства і пагрозу байкотам, чаго нямецкі ўрад не пахваліў. Аднак Мусоліні апроч пагрозаў у прамове заявіў яшчэ нямецкаму паслу ў Рыме, што забароніць давоз нямецкіх тавараў і аб'явіць нам байкот, калі наша грамадзянства не супакоіцца. Каб на заявы прыватных і не адпаведных асоб адказваць разрывам міжнародных таргова палітычных умоў — лічу паступак Мусуліні проста недапусьцімым. Калі так паступаць, дык міжнароднае сужыцьцё было-б зусім немагчымым. Не пазволім адабраць ад нас права абароны нямецкіх меншасьцяў у чужыне, так як будзем самі абараняць правы чужых меншасьцяў у сваіх граніцах".

10 лютага Мусуліні адказаў Штрэзэману, але вельмі няўдачна і ўклончыва, ссылаючыся на тое, што нямецкае жыхарства Тыролі не падходзіць пад міжнародныя трактаты, бо яно прышло туды пасьля падпісаньня трактатаў.

Цяпер немцы яшчэ сьмялей будуць бараніць сваіх братоў у Тыролі.

### 600 пудоў савецкага золата.

У студні г. г. праз Літву пад ахранай літоўскае стражы, перавезена чыгункай 600 пудоў савецкага золата прaзначанага на ўсялякія савецкія выдаткі.

### Саветы канфэруюць аб разбраеньні.

З Масквы даносяць, што Народны Камісар'ят загранічных спраў атрымаў ад Генэральнага Сэкрэтара Лігі Народаў Друммонд'а тэлеграму аб жаданьні 5 дзяржаў адсрочкі тэрміну сазыву камісіі, якая мае прыгатаваць канфэрэнцыю аб разбраеньні і запытаньне ў камісар'ят загранічных спраў аб яго паглядах у гэтай справе.

У адказ на гэты тэлеграм Чычэрын заявіў на тое, што савецкі ўрад даўно ўжо даў згоду прыняць удзел у камісіі аб разбраеньні, прытым адзначыў, што савецкі ўрад, які ўжо зусім прыгатаваны да супрацоўніцтва ў гэтай камісіі, нічога ня меў-бы проці яе созыву ў найбліжэйшым часе. Аднак зважаючы на жаданьне 5 дзяржаў, згаджаецца на адсрочку тэрміну канфэрэнцыі. Толькі ўрад савецкі дамагаецца созыву названае канфэрэнцыі не ў Швайцарыі, заяўляючы, што гэта ёсьць уступны варунак учасьця саветаў у працах камісіі. Наканец Чычэрын выказаў пажаданьне, каб нарады камісіі для падгатоўкі канфэрэнцыі адбываліся ў краі, маючым с саветамі дыпляматычныя зносіны.

### Францыя і справа прыняцьця Нямеччыны ў Лігу Народаў.

Парыскія газэты „Matin" і „L'Oeuvre" прыхільна вітаюць просьбу Нямеччыны аб прыняцьці яе ў Лігу Народаў. Затое „Figaro" і „Gaulais" прадбачаць, што Немцы па прыняцьці іх у Лігу Народаў пачнуць прад'яўляць што-раз то новыя жаданьні.

У зьвязку з гэтым „Figaro" заўважае, што трэба гэтак-сама і Польшчы прызнаць сталае мейсца ў Радзе.

---

Я вам усё расталкую.

Мы сяляне, беларусы, ня маем нічога супольнага з польскімі работнікамі на фабрыках. У іх сваё дзела, а ў нас сваё. Яны лучацца ў камітэты, каб бараніць свае правы, а мы павінны лучыцца ў свае беларускія сялянскія камітэты, каб бараніць свае правы.

Але тут, браткі, патрэбна асьцярога, вялікая асьцярога! Нам няможна верыць першаму, лепшаму прыблудзе. Маем свае беларускія газэты і сваю інтэлігэнцыю. **Яны нам скажуць, калі, гдзе, што і як трэба рабіць.**

Нядаўна вышла новая часопісь „Сялянская Ніва" (адрэс: Вільня, Завальная 7), а ў ёй ўсёчысьценька тлумачаць, што датычыць сялянскіх інтарэсаў.

Чужым-жа ня верма! Раз нас абманулі пры галасаваньні польскія Вызваленцы, другі раз не даймася!

Абяцалі нам аддаваць у сойме зямлю і школу, а ня далі ні адное, ні другое. На нашу зямлю прыслалі асаднікаў, а школу далі толькі на паперы.

Тая-ж партыя, цягнуў далей Адам, каторая выслала гэтага пана, яшчэ горшая.

Калі ў Сойме гаварылі аб зямельнай рэформе, то яны (П. П. С.) першыя дамагаліся, каб налажыць недаступны для нас выкуп на парцэляцыйную зямлю.

— А я чуў, што яны хочуць, падобна, як камуністы, зрабіць з нашае зямлі савецкія гаспадаркі (гэта быццам абчэсьвенныя гаспадаркі) — перапыніў Адама Пранук Гаваркі.

— Калі так, то дрэнь, прыдзецца гнуць сьпіну пад бізуном пэ-пэ-эсаўскім.

— А думаеш чаго лепшага дачакаемся — пацьвярдзіў стары Лявон, люльку вытрасаючы.

— Дык от, бачыце, мужчынкі, — важна канчаў Адам — нам саўсім не па дарозе з гэтым панам. Ён і яго „Красное Знамя" не нашых баровіць інтарэсаў, тольскі сваіх. Хоча нас цёмных абмануць, каб мы купілі сьвежыя мандаты для яго партыі.

Тут пасол ня сьцярпеў і, уськіпеўшы, кінуўся к Адаму, а той ані з мейсца.

— Як ты сьмеш так грубіянсько обзываць моён партыеп!...

— Выбачайце, — стойка адказвае Адам — хоць я ў мужыцкай сярмяжцы, але не грубіян. Я большае грубіянства замячаю пад панскім фракам...

Як пану ня стыдна! Ашукаў пан усю Палесь, а цяпер нам хочаш вочы замарочыць сваім „Красным Знаменем".

Не, панок, мы маем сваё знамя.

Наша знамя беларускае сялянскае.

Глянь во, панок, на тыя чырвоныя іскры, што сыплюцца ад вакон нашых сьвятыняў, то-ж цудоўныя праменьні ад сьвятых кропляў бацькаўскае крыві і поту, пралітых у гаротным жыцьці нашым.

Не, ня пойдзем за вамі, бо вы топчыце ўсё, што бацькі нашы сваею кроўю нам купілі.

Не дамо голасу за тых, каторыя подступам ад нас выдзіраюць зямлю і волю!...

Гэта сказаўшы, Адам крапчэй націснуў шапку, дый пашоў да дому, а за ім усе мужчыны.

**Той Самы.**

